МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
МАЗЫРСКІ ДЗЯРЖА.НЫ ПЕДАГАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ

# Кароткі слоўнік псіхалагічных паняццяў



МАЗЫР 1993

ББК 88.8

Артыкулы слоўнIка растлумачваюць змест асноўных паняццяў па праграме агульнай,узроставай I педагагIчнай псIхалогII для педагагIчных навучальных устаноў.

СлоўнIк разлIчаны на выкладчыкаў псIхалогII, школьных псIхолагаў, настаўнIкаў, студэнтаў педагагIчных навучальных устаноў.

СкладальнIкI: Бернацкая Н.П., ДанIлаў В.В., Іванова Л.М., Качубей Е.М., Старыкава Л.Л., ШумскI П.П.
Пад агульнай рэдакцыяй Шумскага П.П.

Рэцэнзент: загадчык аддзела праблем вышэйшай школы Нацыянальнага Інстытута адукацыI РэспублIкI Беларусь, доктар псIхалагIчных навук, прафесар А.Т.Растуноў.

ВУЧЭБНАЕ ВЫДАННЕ

КАРОТКI СЛОЎНIК ПСIХАЛАГIЧНЫХ ПАНЯЦЦЯЎ/ Склад. Бернацкая Н.П. I Інш.; Пад агульн.рэд. Шумскага П.П. - Мазыр: МазырскI дзяржпедIнстытут, 1993. - 24 с.

Друкуецца па рашэнню навукова-метадычнага савета Мазырскага дзяржаўнага педагагIчнага Інстытута







КароткI псIхалагIчны слоўнIк падрыхтаваны для студэнтаў педагагIчных навучальных устаноў. У слоўнIку змешчаны асноўныя паняццI, якIя выкарыстоўваюцца ў курсах агульнай, узроставай I педагагIчнай псIхалогII. СлоўнIк змяшчае тэрмIналогIю I сIстэму паняццяў, якая прынята ў сучаснай навуке.

Артыкулы слоўнIка не прэтэндуюць на вычарпальнае асвятленне паняццяў. Гэта звязана перш за ўсё з абмежаваным аб'емам артыкулаў I слоўнIка ў цэлым. Таму сэнс паняццяў мае педагагIчны накIрунак. СувязI памIж артыкуламI дазваляюць чытачу атрымаць дастатковы аб'ем ІнфармацыI, якая датычыць да вывучаемага прадмета. ТакIм чынам слоўнIк можа аказаць дапамогу на усIх этапах вывучэння псIхалогII: I пры падрыхтоўке да лабараторных I семIнарскIх заняткаў, пры выкананнI рэфератаў па прапанаваным тэмам, пры падрыхтоўке да залIкаў I экзаменам. Можна спадзявацца, што слоўнIк будзе карысны у час працы над курсавымI I дыпломнымI работамI па псIхолага-педагагIчнай тэматыкI.

У слоўнIку выкарыстоўваюцца звычайныя для даведачнага выдання скарачэннI Замест поўнага названня артыкула ў яго тэксце даюцца толькI першыя лIтары слова, якое складае назву. У тэрмIнах, якIя складаюцца з некалькIх слоў, на першае месца ставяцца словы, якIя нясуць лагIчны нацIск, цI словы, якIя адлюстроўваюць спецыфIку зместа паняцця.



## А

АБАГУЛЬНЕННЕ - мысленае аб'яднанне прадметаў І з'яў па Іх агульных І Істотных прыкметах.

АГЛЮЦІНАЦЫЯ - стварэнне новых вобразаў на аснове "склейвання" частак наяўных вобразаў І ўяўленняў.

АДАПТАЦЫЯ - прыстасаванне да змененых знешнІх умоў.

АДЧУВАЛЬНАСЦЬ - здольнасць рэагаваць на параўнальна слабыя цІ нязначна адрознІваючыяся адзІн ад аднаго ўздзеяннІ.

АДЧУВАННЕ - найпрасцейшы псІхІчны працэс адлюстравання асобных уласцІвасцей прадметаў І з'яў рэальнага свету, якІя непасрэдна ўздзейнІчаюць на органы пачуццяў. АдрознІваюць Інтрацэптыўныя адчуваннІ, якІя сІгналІзуюць аб унутраным стане арганІзма. Працягласць адчуванняў акрэслІваецца функцыянальным станам органаў пачуццяў, часам дзеяння раздражняльнІка І яго ІнтэнсІўнасцю.

АНАЛІЗ - мысленчая аперацыя расчлянення складанага аб'екта на часткІ або характарыстыкІ.

АПЕРЦЭПЦЫЯ - залежнасць успрыняцця ад мІнулага вопыту, запасу ведаў І агульнай накІраванасцІ асобы.

АСОБА - чалавечы ІндывІд як суб'ект мІжасобовых І сацыяльных адносІн І свядомай дзейнасцІ. Актыўнасць асобы - гэта здольнасць чалавека рабІць пераўтварэннІ ў свеце на аснове прысваення багаццяў матэрыяльнай І духоўнай культуры, якІя праяўляюцца ў творчасцІ, валявых актах, зносІнах. НакІраванасць асобы - сукупнасць устойлІвых матываў, якІя арыентуюць паводзІны І дзейнасць асобы адносна незалежна ад канкрэтных умоў. Характарызуецца патрэбамІ, Інтарэсамі, схІльнасцямІ, перакананнямІ, ІдэаламІ, светапоглядамІ, якІя дамІнІруюць.

АЎТАРЫТЭТ - уплыў ІндывІда, заснаваны на становІшчы, пасадзе, статусе, якІя ён займае.



АФЕКТ - кароткІя, як правІла, не падуладныя свядомасцІ, але вельмІ моцныя эмацыянальныя перажываннІ, якІя суправаджаюцца вялІкІмІ зменамІ ва ўнутраных органах І часта маюць знешняе выяўленне.

## Б

БЕЗТАКТОЎНАСЦЬ - дэструкцыя чаканняў у працэсе зносІн, якая парушае ўзаемадзеянне ўдзельнІкаў у зносІнах І часам стварае канфлІктныя сІтуацыІ.

## В

ВАЛЯВЫЯ НАМАГАННІ - выражаюцца ў накІраванасцІ свядомасцІ на мабІлІзацыю фІзІчных І псІхІчных сІл І здольнасцей па пераадольванню перашкод у працэсе дзейнасцІ.

ВОЛЯ - свядомае рэгуляванне чалавекам сваІх паводзІн І дзейнасцІ, выражанае ва ўменнІ пераадольваць унутраныя І знешнІя цяжкасцІ пры здзяйсненнІ мэтанакІраваных дзеянняў І ўчынкаў.

ВЯДУЧАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ - дзейнасць, якая займае найважнейшае месца ў сІстэме навучання І выхавання ў залежнасцІ ад узроставых этапаў развІцця асобы ў антагенэзе.

## Г

ГІПЕРБАЛІЗАЦЫЯ - павелІчэнне або памяншэнне прадмета, а таксама змяненне яго асобных частак.

## Д

ДАМIНАНТА - ачаг узбуджанасцI ў кары галоўнага мозгу, якI часова пануе. Д. з'яўляецца фIзIялагIчнай асновай увагI.

## З

ЗАБЫВАННЕ - працэс памяцI, якI характарызуецца паступовым зменшэннем магчымасцI прыпамiнання I ўзнаўлення завучанага матэрыялу.

ЗАДАЧА - мэта, якая задана ў вызначаных умовах.

ЗАВАСТРЭННЕ - падкрэслiванне якIх-небудзь асобных прымет.

ЗАПАМIНАННЕ - псIхIчная дзейнасць, якая накIравана на замацаванне ў памяцI новай IнфармацыI.

ЗАХОЎВАННЕ - утрыманне ўспрынятай IнфармацыI ў скрытым становIшчы.

ЗГУРТАВАНАСЦЬ - адзIн з працэсаў групавой дынамIкI, якI характарызуе ступень прыхIльнасцI да групы яе членаў.

ЗДОЛЬНАСЦI - IндывIдуальна-псIхалагIчныя асаблIвасцI асобы, якIя з'яўляюцца ўмовай паспяховага выканання прадуктыўнай дзейнасцI.

ЗДЗЕЎЛЕННЕ - эмацыянальная рэакцыя на раптоўна ўзнIкшыя абставIны, якая не мае рэзка акрэсленага станоўчага або адмоўнага знаку.

ЗНОСIНЫ - складаны многапланавы працэс устанаўлення I развIцця кантактаў памIж людзьмI, якI параджаецца патрэбамI ў сумеснай дзейнасцI I якI ўключае ў сябе абмен Iнфармацыяй, выпрацоўку адзIнай стратэгII ўзаемадзеяння, успрымання I разумення другога чалавека.



ЗНОСIНЫ ПЕДАГАГIЧНЫЯ - прафесIйныя зносIны настаўнIка з вучнямI ў працэсе навучання I выхавання, якIя накIраваны на стварэнне ўмоў для ўсебаковага развIцця асобы, дазваляюць кIраваць сацыяльна-псIхалагIчнымI працэсамI ў калектыве I забяспечваць спрыяльны псIхалагIчны клIмат.

ЗНОСIН ТРЭНIНГ - вIд сацыяльна-псIхалагIчнага трэнIнга, накIраваны на набыцце ведаў, уменняў I навыкаў, карэкцыю I фармIраванне ўстановак, неабходных для паспяховых мIжасабовых зносIн.

## I

IДЭНТЫФIКАЦЫЯ - спосаб разумення Iншага чалавека праз усвядомнае або неусвядомнае прыпадабненне яго характэрыстыкам самага суб'екта.

IЛЮЗII ЎСПРЫНЯЦЦЯ - скажонае адлюстраванне рэальнасцI, якое носIць устойлIвы характар.

IНДЫВIД - асобная жывая Iстота, прадстаўнIк бIялагIчнага вIду.

IНДЫВIДУАЛЬНАСЦЬ - спалучэнне псIхалагIчных асаблIвасцей чалавека, якIя складаюць яго своеасаблIвасць, яго адрозненне ад Iншых людзей.

IНДУКЦЫЯ НЯРВОВЫХ ПРАЦЭСАЎ - узнIкненне супрацьлеглага па знаку нярвовага працэсу ўслед за Iснуючым працэсам цI за яго тэрытарыяльнымI межамI.

IНТАРЭС - адна з форм накIраванасцI асобы, афарбаваная станоўчай эмоцыяй. Звязана з праяўленнем пазнавальнай патрэбы.

ІНТЭНСІЎНАСЦЬ - якасць працэсу, якая вызначаецца сілай раздражняльніка, які дзейнічае і функцыянальным станам рэцэптара.

К

КАЛЕКТЫВІЗМ - прынцып арганізацыі ўзаемаадносін і сумеснай дзейнасці людзей, які праяўляецца ва ўсвядомленым падпарадкаванні асобных інтарэсаў грамадскім, у таварыскім супрацоўніцтве, у гатоўнасці да ўзаемадзеяння і ўзаемадапамогі, ва ўзаемаразуменні, добразычлівасці і тактоўнасці, інтарэсе да праблем адзін другога.

КАЛЕКТЫВІСЦКАЯ ІДЭНТЫФІКАЦЫЯ - форма гуманных адносін, якая ўзнікае ў сумеснай дзейнасці. Пры ёй перажыванні аднаго з групы даддзены іншым як матывы паводзін. К.І. арганізуе асабістую дзейнасць, накіраваную адначасова на здзяйсненне групавой мэты і на ўстраненне фруструючых уздзеянняў.

КАЛЕКТЫВІСЦКАЕ САМАВЫЗНАЧЭННЕ - асаблівая форма самавызначэння асобы; выбарчыя адносіны індывіда да ўздзеянняў канкрэтнай групы, якія выяўляюцца ў прыняцці ім адных і адхіленні другіх групавых уздзеянняў у залежнасці ад апасродкаваных фактараў - ацэнак, перакананняў, ідэалаў, групавых норм, каштоўнасцей і г.д.

КАЛЕКТЫЎ - група аб'яднаных агульнымі мэтамі і задачамі людзей, дасягнуўшая ў працэсе сацыяльна каштоўнай сумеснай дзейнасці высокага ўзроўня развіцця. Група - сацыяльная супольнасць людзей, аб'яднаных на падставе шэрагу прыкмет, якія датычацца зместу сумесна выконваемай дзейнасці або характару зносін.

КАМУНІКАЦЫЯ - перадача інфармацыі пры дапамозе мовы і іншых знакавых сродкаў.



КАМУНІКАЦЫЯ НЕВЯРБАЛЬНАЯ - эмацыянальныя адносіны, якія суправаджаюць моцнае выказванне. Да сродкаў невярбальнай камунікацыі належаць жэсты, міміка, інтанацыі, паўзы, поза, смех, слёзы і г.д.

КАНСТАНТНАСЦЬ - адноснае пастаянства вобразаў, прадметаў, у прыватнасці іх формы, колеру, велічыні пры змяненні ўмоў успрыняцця.

КАНЦЭНТРАЦЫЯ - ступень сканцэнтраванасці ўвагі на аб'екце.

КАУЗАЛЬНАЯ АТРЫБУЦЫЯ - прычыннае тлумачэнне ўчынкаў другога чалавека шляхам прыпісвання яму адчуванняў, намераў, думак і матываў паводзін.

КАХАННЕ - інтэнсіўнае, напружанае і ўстойлівае адчуванне асобы. У асноўным абумоўлена сексуальнымі патрэбамі. Праяўляецца ў жаданні ўласнымі асабістасна значнымі рысамі як можна паўней удзельнічаць у жыцці іншай асобы. З'яўляецца вышэйшым праяўленнем адчування і пачуццяў.

КАШТОЎНАСНАЯ АРЫЕНТАЦЫЯ АСОБЫ - сістэма адносін асобы да сацыяльна-палітычных, духоўных і іншых нормаў грамадства.

Л

ЛАБІЛЬНАСЦЬ - асаблівая ўласцівасць, якая вызначае хуткасць узнікнення ўзбуджальнага або тармазнога працэса.

ЛІДЭРСТВА - адносіны дамініравання і падпарадкавання, уплыву і прытрымлівання ў сістэме міжасабовых зносін у групе.

## М

МАЙСТЭРСТВА - вышэйшая ступень авалодання працоўнай якасцю або працэсам

МАРА - I. Вобраз жадаемага будучага. 2. Від творчага ўяўлення, які звязан з асведамленнем жадаемага будучага.

МАРАЛЬНАСЦЬ - сістэма маральных норм і ўстановак асобы.

МАЎЛЕННЕ - працэс зносін людзей пры дапамозе мовы.

МАЎЛЕННЕ ЎНУТРАНАЕ - розныя віды выкарыстання мовы па-за працэсам рэальнай камунікацыі.

МІЖАСАБОВЫЯ КАНФЛІКТЫ - антаганізм пазіцый, які адлюстроўвае наяўнасць узаемавыключных каштоўнасцей, задач і мэт, і які прыводзіць да ўзаемнай варожнасці.

МІЖАСАБОВАЕ ЎЗАЕМАДЗЕЯННЕ - сукупнасць сувязей і ўзаемаўплываў людзей, якія складаюцца ў працэсе іх сумеснай дзейнасці.

МОВА - сістэма знакаў, якая служыць сродкам чалавечых зносін, дзейнасці мыслення, спосабам выяўлення самасвядомасці асобы, перадачы ад пакалення ў пакаленне і захавання інфармацыі.

МЫСЛЕННЕ - працэс абагульнёнага і апасродкаванага пазнання рэчаіснасці.

МЭТЫ АСОБЫ - усвядомлены вобраз вызначанага наперад выніка, на дасягненне якога накіравана дзейнасць асобы.

## Н

НАВУЧАННЕ - працэс мэтанакіраванай перадачы агульнагістарычнага вопыту: арганізацыя фарміравання ведаў, уменняў, навыкаў.



НАВУЧЭННЕ - працэс і вынік набытага індывідуальнага вопыту. Навучэнне адрозніваецца ад вучэння як набытага вопыту ў дзейнасці, маючы кірунак, абумоўлены пазнавальнымі матывамі і мэтамі. Шляхам Н. можна набываць любы вопыт /веды, уменні, навыкі/ у чалавека і новыя формы паводзін у жывёл.

НАВЫК - дзейнасць, сфарміраваная шляхам паўтарэння, якая характарызуецца вышэйшай ступенню асваення і адсутнасцю свядомай рэгуляцыі і кантроля.

НАГЛЯДНАСЦЬ - сродкі, якія паскараюць і паглыбляюць актывізуюць працэс запамінання і ўзнаўлення навучальнага матэрыяла. Адрозніваюць друкаваныя /табліцы, карткі, дыдактычныя матэрыялы і інш./, тэхнічныя /дыяпраэкцыя, кодопраэкцыя, эпіпраэкцыя, кінапраэкцыя, відыё- і аудыёапаратура/.

НАЗІРАЛЬНАСЦЬ - уласцівасць асобы, якая праяўляецца як здольнасць заўважаць ва ўспрыймаемым маласвядомыя, але істотныя дэталі.

НАЗІРАННЕ - мэтанакіраванае, планамернае ўспрыняцце аб'ектаў, у пазнанні якіх зацікаўлена асоба. Назіранне выкарыстоўваецца як метад даследавання. Адрозніваюць уключанае назіранне, калі даследчык удзельнічае ў з'явах, за якімі назіраюць.

НАСТРОЙ - устойлівае перажыванне якіх-небудзь эмоцый.

НЕЎСВЯДОМЛЕНАЕ - I. Сукупнасць псіхічных працэсаў, актаў і з'яў, абумоўленых сапраўдным станам, ва ўплыве якіх суб'ект не дае сабе справаздачы. 2. Форма псіхічнага адлюстравання, дзякуючы якой вобраз сапраўднага і адносіны да яго суб'екта не выступаюць як прадмет спецыяльнай рэфлексіі, складаючы нерасчлянёнае цэлае.

## П

ПАМЯЦЬ - запамінанне, захоўванне і наступнае ўзнаўленне асобай яе вопыту. П.фарміруе змястоўнае ў псіхіке асобы.

Адрознiваюць вiды памяцi па тэрмiну захавання, па наяўнасцi сэнсавых сувязей, па ўдзелу ў запамiнаннi валявых намаганняў, па ўдзелу рэцэптараў у запамiнаннi.

Памяць адвольная - вiд памяцi, заснаваны на запамiнаннi са спецыяльнай устаноўкай.

Памяць вобразная - вiд памяцi, якi забяспячае захаванне iнфармацыi на розныя вобразы /зрокавая, слыхавая i г.д./.

Памяць рухальная - запамiнанне, захоўванне i ўзнаўленне розных рухаў.

Памяць доўгачасовая - вiд памяцi, якi забяспячае працяглае /гадзiны, гады/ захоўванне iнфармацыi.

Памяць кароткачасовая - вiд памяцi, якi забяспячае запамiнанне на кароткi тэрмiн, часам пасля вельмi кароткага ўспрымання iнфармацыi.

Памяць неадвольная - вiд памяцi, заснаваны на запамiнаннi без спецыяльнай устаноўкi i без валявых намаганняў.

Памяць механiчная - вiд памяцi, заснаваны на паўтарэннi матэрыялу без яго асэнсавання.

Памяць славесна-лагiчная - памяць на слоўны абстрактны матэрыял: паняццi, формулы i г.д.

Памяць сэнсавая - вiд памяцi, заснаваны на ўстанаўленнi ў запамiнаемым матэрыяле сэнсавых сувязей.

Памяць эмацыянальная - вiд памяцi, забяспячае захаванне iнфармацыi аб перажытых пачуццях.

ПАНЯЦЦЕ - форма мыслення, якая ўстанаўлiвае iстотныя якасцi прадметаў i з'яў i выражана праз слова або групу слоў.

ПАРАЎНАННЕ - мыслiльная аперацыя, заснаваная на ўстанаўленнi падабенства i розніцы памiж аб'ектамi.

ПАЧУЦЦI - унутраныя адносiны чалавека да таго, што адбываецца ў яго жыццi, што ен пазнае цi робiць, якiя перажываюцца iм у рознай форме. Вышэйшыя П. часам называюцца



маральныя, iнтэлектуальныя i эстэтычныя пачуццi, якiя перажываюцца чалавекам у дзейнасцi i зносiнах. Уласцiвасцю П. з'яўляецца амбiвалентнасць. Гэта няўзгодненасць, супярэчлiвасць некалькiх П., якiя адначасова адчуваюцца ў эмацыянальных адносiнах да аб'екту.

ПАТРЭБА - стан iндывiду, якi складаецца як адлюстраванне нужды асобы, звязана з самаадзнакай i каштоўнаснымi арыентацыямi.

ПЕРАКАНАННЕ - усвядомленая патрэба асобы, якая прымушае яе дзейнiчаць у адпаведнасцi з ўласнымi каштоўнаснымi арыентацыямi.

ПЕРАКЛЮЧЭННЕ - наўмысны перанос увагi з аднаго аб'екта на другi.

ПЕРСАНАЛIЗАЦЫЯ - працэс, у вынiку якога суб'ект набывае iдэальную прадстаўленасць у жыццядзейнасцi iншых людзей i можа выступiць у грамадскiм жыццi як асоба.

ПЕРЦЭПТЫЎНЫЯ ДЗЕЯННI - састаўныя адзiнкi працэса ўспрымяцця, якiя ўключаюць знаходжанне аб'екта ўспрымяцця i суаднясенне яго з вобразамi памяцi.

ПРАБЛЕМНАЯ СIТУАЦЫЯ - сiтуацыя, у якой узнiкаюць задачы, звязаныя з iнтэлектуальнай пошукавай дзейнасцю.

ПРАДМЕТНАСЦЬ - здольнасць суб'екта адносiць атрыманыя ўражаннi да рэальных прадметаў i з'яў навакольнага свету.

ПРАКТЫКАВАННЕ - паўторнае выкананне дзейнасцi з мэтай яе засваення.

ПРАСТОРАВАЯ ЛАКАЛIЗАЦЫЯ - прасторавы аналiз, якi ажыццяўляецца дыстанцыйнымi рэцэптарамi, дае чалавеку веды аб лакалiзацыi раздражняльнiка ў прасторы. У некаторых выпадках адчуваннi суадносяцца з той часткай цела, на якую ўздзейнiчае раздражняльнiк, а iншы раз яны больш разлiты.

ПРАПРЫЯЦЭПТЫЎНЫЯ АДЧУВАННI - адчуваннi, якiя сiгналiзуюць аб становiшчы розных частак цела i iх руху.

ПРАФЕСIЯНАЛЬНАЯ АДУКАЦЫЯ - сiстэма ведаў, уменняў, навыкаў, характэрных для набыцця той цi iншай прафесii, атрыманая ў працэсе мэтанакiраванага навучання.

ПРЫПАМІНАННЕ - форма ўзнаўлення, сутнасць якой у пошуку ў доўгачасовай памяці неабходнай інфармацыі.

ПРЭСТЫЖ - мера прызнання грамадствам заслуг індывіда, вынік суаднясення сацыяльна значных характарыстык суб'екта са шкалой каштоўнасцей, якія склаліся ў данай супольнасці.

ПСІХАДЫЯГНОСТЫКА - вобласць псіхалагічнай навукі, якая распрацоўвае метады выяўлення і вымярэння індывідуальна-псіхалагічных якасцей асобы.

ПСІХАЛОГІЯ - навука аб заканамернасцях развіцця і функцыяніравання псіхікі, як асаблівай формы жыццядзейнасці.

ПСІХІКА - сістэмная ўласцівасць высокаарганізаванай матэрыі, якая заключаецца ў актыўным адлюстраванні суб'ектам аб'ектыўнага сусвету, у пабудове суб'ектам неадчужальнай ад яго карціны гэтага сусвету, саманрэгуляванні на гэтай падставе сваіх паводзін і дзейнасці.

ПСІХАЛАГІЧНАЯ ГАТОЎНАСЦЬ ДА НАВУЧАННЯ /ШКОЛЬНАЯ СТАЛАСЦЬ/ - перыяд антагенэзу, які характарызуецца падрыхтаванасцю дзяцей да метанакіраванага навучання ў школе. Звычайна адпавядае ўзросту ў 6 - 7 гадоў. Дыягнастыруецца пры дапамозе спецыяльных методык, назірання.

ПСІХІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ - развіццё тых ці іншых бакоў псіхікі чалавека, менавіта: працэсаў, станаў /памяці, пачуццяў, узрушэння і г.д./. Развіццё псіхікі ў антагенэзе вывучае ўзроставая псіхалогія.

Псіхалагічныя ТЭСТЫ - сістэма стандартызаваных заданняў, якая мае спецыяльныя крытэрыяльныя нормы /шкалы/, якая дазваляе вымяраць узровень развіцця пэўных псіхічных якасцей /уласцівасцей/ асобы. Адрозніваюць стандартызаваныя апытальнікі, тэсты здольнасцей і дасягненняў, прафесійныя тэсты, праектыўныя тэсты і інш.

ПСІХАЛАГІЧНАЕ ТЭСТАВАННЕ - працэс вымярэння псіхічных якасцей асобы пры дапамозе псіхалагічных тэстаў. Сама працэдура стандартызуецца пры складанні тэста. Кожны тэст павінен мець апісанне працэдуры П.Т.



Р

РАДАСЦЬ - станоўчы эмацыянальны стан, які звязаны з магчымасцю дастаткова поўна задаволіць актуальную патрэбу, імавернасць чаго да гэтага была невялікай, або, ва ўсякім разе, неакрэсленай.

РАЗДРАЖНЯЛЬНАСЦЬ - змяненне фізіялагічнага стану суцэльнага арганізму, яго органаў, тканін або клетак пад уплывам знешніх уздзеянняў, якія называюцца раздражнікамі.

РАЗМЕРКАВАННЕ - магчымасць утрымліваць у сферы ўвагі аднача́сова некалькі аб'ектаў або некалькі відаў дзейнасці.

РАЗУМОВАЯ САМАСТОЙНАСЦЬ - якасць, якая характарызуе навучэнца з боку яго разумовай актыўнасці і магчымасці своечасова і хутка прымаць тое ці іншае рашэнне з элементамі крытычнага падыходу да ўласных якасцей /дзейнасці, учынкаў, здольнасцей і г.д./.

РАЗУМОВАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ І АПЕРАЦЫІ - дзейнасць чалавека, якая выконваецца ва ўнутраным плане свядомасці без апоры на знешнія сродкі, у тым ліку на маўленне, якое можна чуць.

РАЛЯВЫЯ КАНФЛІКТЫ - сутыкненне множных ралявых пазіцый.

РАЛЯВЫЯ ЧАКАННІ - адпавяданне паводзін людзей, якія ўзаемадзейнічаюць, чаканням адзін другога.

РОЛЯ - сацыяльная функцыя асобы, адпавядаючы прынятым нормам спосаб паводзін людзей у залежнасці ад іх статуса або пазіцыі у грамадстве, у сістэме міжасабовых адносін.

РАССЕЯНАСЦЬ - нездольнасць чалавека сканцэнтравацца на чым-небудзь на працягу доўгага часу.

РЭАКТЫЎНАСЦЬ - уласцівасць асобы, якая сведчыць аб ступені неадвольнасці рэакцый на знешнія або ўнутраныя ўздзеянні аднолькавай сілы.

РЭМІНІСЦЭНЦЫЯ - узнаўленне раней успрынятага, якое здаецца забытым, не адразу, а праз некаторы час.

РЭТРААКТЫЎНАЕ ТАРМАЖЭННЕ - адмоўны ўплыў наступнага за запамінаннем дзейнасцІ.

РЭФЕРЭНТАМЕТРЫЯ - спосаб выяўлення рэферэнтнасцІ членаў групы для кожнага Індывіда, які ў яе ўваходзІць.

РЭФЕРЭНТНАЯ ГРУПА - група людзей, на якую арыентуецца чалавек у сваІх каштоўнасцях І паводзІнах; можа быць як рэальнай, так І ўяўнай.

РЭФЛЕКСІЯ - працэс самапазнання суб'ектам унутраных псІхІчных актаў І з'яў.

С

САМААЦЭНКА - ацэнка асобай самой сябя, уласных магчымасцей, якасцей І месца сярод Іншых людзей.

САМАСВЯДОМАСЦЬ - адносна ўстойлівае, у найбольшай ці найменшай меры асэнсаванае, перажываемае як непаўторнае сістэма ўяўленняў Індывіда аб самім сябе, на падставе якой ен будуе свае ўзаемадзеяннІ з ІншымІ людзьмІ І адносІны да сябе.

САЦЫЯЛЬНАЯ АКТЫЎНАСЦЬ - агульная характарыстыка жывых Істот, Іх асабІстая дынамІка як крынІца пераўтварэня або падтрымкІ ІмІ жыццёва значных сувязяў з навакольным асяроддзем.

САЦЫЯЛЬНАЯ ПЕРЦЭПЦЫЯ - успрыманне, разуменне І ацэнка людзьмІ сацыяльных аб'ектаў / Іншых людзей, самІх сябе. груп, сацыяльных супольнасцей І Інш./.

САЦЫЯЛЬНАЯ СТАЛАСЦЬ - этап развІцця асобы ў антагенэзе, на якІм сфармІраваны здольнасцІ Індывіда ўзаемадзейнІчаць з навакольным асяроддзем. уменне арыентыравацца ў розных сацыяльных сІтуацыях. выбІраць адэкватныя спосабы зносІн. Значную ролю у С.С. Іграе р э ф л е к с І я І э м п а т ы я.



САЦЫЯЛЬНЫЯ НОРМЫ - прынятыя ў грамадстве ўзоры паводзІн, якІя рэгламентуюць узаемадзеянне І ўзаемаадносІны людзей.

САЦЫЯМЕТРЫЯ - сацыяльна-псІхалагІчны метад, распрацаваны Я. Марэна, які дазваляе вызначыць структуру мІжасабовых адносІн у групе на колькасцІ ўзаемных выбараў яе членаў.

СВЯДОМАСЦЬ - вышэйшы ўзровень псІхІчнага адлюстравання І самарэгулявання, уласны толькІ чалавеку як грамадска-гІстарычнай Істоце. ЭмпІрычная свядомасць выступае як беспрыпынна меняючая сукупнасць пачуццяў І разумовых вобразаў, якІя непасрэдна паўстаюць перад суб'ектам у яго ўнутраным вопыце І якІя вызначаюць яго практычную дзейнасць. ПсІхалогІя вывучае паходжанне, структуру, функцыянІраванне свядомасцІ Індывіда.

СЕНЗІТЫЎНАСЦЬ - характаралагІчная асаблІвасць чалавека. якая праяўляецца ў павялІчанай адчувальнасцІ да адбываючыхся падзей. Суправаджаецца павялІчанай трывожнасцю, боязззю новых людзей. падзей, усялякага рода выпрабаванняў.

СЕНЗІТЫЎНЫ ПЕРЫЯД НАВУЧАННЯ - уласны ўзроставаму перыяду развІцця чалавека аптымальны характар працякання псІхІчных уласцІвасцей І працэсаў.

СІЛА - здольнасць нярвовай сІстэмы вытрымлІваць моцныя раздражняльнІкІ.

СЕНСІБІЛІЗАЦЫЯ - павышэнне адчування аналІзатара пад уплывам унутраных фактараў.

СІНТЭЗ - мыслІцельная аперацыя, заснаваная на ўстанаўленнІ падабенства І рознІцы памІж аб'ектамІ.

СІНЭСТЭЗІЯ - сенсорнае псІхІчнае з'яўленне, калІ раздражняльнІк. спецыфІчны для данага аналІзатара, выклІкае адчуванне, уласцІвае Іншым.

СОРАМ - адмоўны стан, які выяўляецца ва ўсведамленнІ неадпаведнасцІ ўласных думак, учынкаў. знешнасцІ.

СРОДКІ МАСАВАЙ КАМУНІКАЦЫІ - органы сІстэматычнага распаўсюджвання падрыхтаваных паведамленняў, якІя маюць сацыяльную значнасць сярод вялІкай, ананІмнай, расканцэнтраванай аўдыторыІ з мэтай аказання ўплыву на ўстаноўкІ, ацэнкІ, дум-

кI I паводзIны людзей.

СТАН ЭМАЦЫЯНАЛЬНЫ - рознага роду настрой, страсцI I афекты, якIя могуць быць стэнIчнымI I астэнIчнымI.

СТАТУС САЦЫЯЛЬНЫ - становIшча суб'екта ў сIстэме мIжасабовых адносIн. якое акрэслIвае яго правы, абавязкI I прывIлеI.

СТРАСЦЬ - стойкая I працяглая форма праяўлення эмоцый. якая становIцца дамIнIруючай матывам дзейнасцI.

СТРУКТУРА ХАРАКТАРА - цаласная арганIзацыя ўласцIвасцей характара.

СТРУКТУРНАСЦЬ - успрыняцце не з'яўляецца проста сумай адчуванняў. Чалавек успрымае фактычна абстрагаваную з гэтых адчуванняў, абагульнёную структуру.

СТЭРЭАТЫПIЗАЦЫЯ - успрыманне. класIфIкацыя I ацэнка сацыяльных аб'ектаў /падзей/ на аснове пэўных уяўленняў.

СТРЭС ЭМАЦЫЯНАЛЬНЫ - эмацыянальны стан, вызваны экстрэмальнымI для дадзенай асобы ўмовамI.

СХЕМАТЫЗАЦЫЯ - працэс,у якIм асобныя ўяўленнI злIваюцца, адрозненнI згладжваюцца, а рысы падабенства выступаюць выразна, дакладна.

СХIЛЬНАСЦЬ - выбIральная накIраванасць IндывIда на вызначаную дзейнасць. С. пабуджае займацца вызначанай дзейнасцю.

СЯБРОЎСТВА - адносIны памIж людзьмI, заснаваныя на ўзаемнай прыхIльнасцI. духоўнай блIзкасцI, агульнасцI Інтарэсаў I г.д.

СЭНСАВЫЯ БАР'ЕРЫ Ў ЗНОСIНАХ - несупадзенне сэнсаў патрабавання, якое выказана, просьбы, загада да партнёраў у зносIнах, якIя ствараюць перашкоды для Iх узаемаразумення I ўзаемадзеяння.



## Т

ТАКТОЎНАСЦЬ - здольнасць I ўменне чалавека беспамылкова дакладна прыпIсваць Iншым чаканнI таго, што яны гатовы ад яго пачуць або ўбачыць у Iм.

ТАЛЕНТ - высокI ўзровень развIцця здольнасцей, у першую чаргу спецыяльных. Аб наяўнасцI Т. можна меркаваць перш за ўсё па вынIках дзейнасцI чалавека, якIя павIнны адрознIвацца прынцыповай навIзной, арыгIнальнасцю падыхода I Iнш.

ТАРМАЖЭННЕ - актыўны, неразрыўна звязаны з узбуджэннем працэс, якI прыводзIць да затрымкI дзейнасцI нярвовых цэнтраў або рабочых органаў. У першым выпадку Т. называецца цэнтральным, у другIм - перыферыйным.

ТАРМАЖЭННЕ ПРААКТЫЎНАЕ - пагоршанае ўзнаўленне матэрыялу пад уплывам дзейнасцI, якая папярэднIчала завучванню.

ТВОРЧАСЦЬ - дзейнасць чалавека або калектыва людзей па стварэнню новых арыгIнальных грамадска значных каштоўнасцей.

ТРАПIЗМЫ - рух /рост/ раслIн у вызначаным напрамку, вызваны аднабаковым уздзеяннем фактараў знешняга асяроддзя /святу, хIмIчных рэчываў I г.д./.

ТРЫВОГА - эмацыянальны стан, якI ўзнIкае ў сiтуацыях невызначанай бяспекI I выяўляецца ў чаканнI няўдалага развIцця падзей.

ТЫПIЗАЦЫЯ - вызначэнне Iстотнага, якое паўтараецца ў аднолькавых вобразах.

ТЭМПЕРАМЕНТ - IндывIдуальна-своеасаблIвая ўласцIвасць псIхIкI, якая вызначае дынамIку псIхIчнай дзейнасцI чалавека, калI гэтая дзейнасць аднолькова праяўляецца ў розных сIтуацыях незалежна ад зместу, мэт, матываў I застаецца пастаяннай у сталым узросце I ў сваей узаемнай сувязI характарызуе тып тэмпераменту.

ТЫП ВЫШЭЙШАЙ НЯРВОВАЙ СІСТЭМЫ - спалучэнне ўласцIвасцей нярвовай сIстэмы, якое вызначае I IндывIдуальныя асаблIвасцI ўмоўна-рэфлекторнай дзейнасцI I тэмпераменту.

ТЫП ТЭМПЕРАМЕНТУ - вызначаная сукупнасць псIхалагIчных уласцIвасцей, заканамерна звязаных памIж сабой I агульных у дадзенай групе людзей.

## У

УВАГА - сканцэнтраванасць дзейнасцI суб'екта ў дадзены момант часу на якIм-небудзь рэальным або Iдэальным аб'екце /прадмеце, падзеI, вобразе, развагах I г.д. У. характарызуецца аб'ёмам - колькасцю аб'ектаў, якIя могуць быць ахоплены увагай адначасова; устойлIвасцю, размеркаваннем, пераключэннем.

УВАГА АДВОЛЬНАЯ - арганIзаваная накIраванасць свядомасцI I дзейнасцI на прадмет цI з'яўленне ў сIлу Iх асаблIвасцI, якая ўзнIкае пад уплывам мэты I валявога намагання.

УВАГА НЕАДВОЛЬНАЯ - накIраванасць дзейнасцI I свядомасцI на прадмет цI з'яўленне ў сIлу Iх асаблIвасцей, без мэты I валявога намагання.

УВАГА ПАСЛЯАДВОЛЬНАЯ - сканцэнтраванасць свядомасцI на аб'екце значным I каштоўным для чалавека ў сIлу ўзнIкшай зацIкаўленасцI да дзейнасцI, аб'екту, без валявых намаганняў.

УЗНАЎЛЕННЕ - працэс памяцI, у вынIку якога адбываецца актуалIзацыя замацаванага раней.



УЗРОВЕНЬ ДАМАГАННЯЎ - Iмкненне да дасягнення мэт той ступенI складанасцI, на якую чалавек лIчыць сябе здольным.

УЗРОСТАВАЯ ПЕРЫЯДЫЗАЦЫЯ - катэгорыя, якая абазначае галоўную характарыстыку IндывIдуальнага развIцця. У айчыннай псIхалогII прынята наступная У.П.; малюковае дзяцIнства - да I года; праддашкалёвае дзяцIнства - ад I да 3 гадоў; дашкалёвае дзяцIнства - ад 3 да 6 гадоў; малодшы школьны ўзрост - ад 6 да 10 гадоў; падлеткавы ўзрост - ад 10 да 15 гадоў; юнацтва: першы перыяд /старэйшы школьны ўзрост, цI ранейшае юнацтва/ - ад 15 да 17 гадоў; другI перыяд /старэйшае юнацтва/ ад 17 да 21 года; сталы ўзрост - ад 21 да 35 гадоў; другI перыяд сталага ўзроста - ад 35 да 60 гадоў; пажылы ўзрост - ад 60 да 75 гадоў; старэчы ўзрост ад 75 да 90 год; доўгажыцелI - ад 90 год I старэй.

УЗРОСТАВЫЯ АСАБЛIВАСЦI - спецыфIчныя ўласцIвасцI асобы IндывIда, яго псIхIкI, якIя заканамерна змяняюцца ў працэсе змены ўзроставых перыядаў развIцця.

УМЕННI - асвоены суб'ектам спосаб выканання дзейнасцI, якая забяспечвае сукупнасць набытых ведаў I навыкаў. УменнI фармIруюцца шляхам практыкаванняў I даюць магчымасць выконваць дзейнасць не толькI пры звычайных, але I пры надзвычайных умовах.

УРАЎНАВАЖАНАСЦЬ - ступень адпаведнасцI сIлы ўзбуджальнасцI сIле тармажэння, або Iх баланс.

УСПРЫЙМАННЕ - цэласнае адлюстраванне прадметаў, сIтуацый I з'яў, узнIкаючае пры непасрэдным уплыве фIзIчных раздражняльнIкаў на рэцэпторныя паверхоўнасцI органаў пачуццяў. Свядомасць успрынятага ў чалавека цесна звязана з мысленнем, з разуменнем сутнасцI прадмета.

УСПРЫНЯЦЦЕ ПРАСТОРЫ - адлюстраванне прасторавых форм прадметаў, Iх размяшчэнне адносна Iншых аб'ектаў.

УСПРЫНЯЦЦЕ ЧАСУ - адлюстраванне працягласцI I паслядоўнасцI з'яў цI падзей.

УСТАНОЎКА - неўсвядомлены стан гатоўнасцI чалавека адпаведным чынам успрымаць, ацэньваць I дзейнIчаць у адносIнах да акружаючых яго людзей або аб'ектаў.

УСТОЙЛІВАСЦЬ - працягласць канцэнтрацыі ўвагі на аб'екце.

УЯЎЛЕННЕ - форма псіхічнага адлюстравання, якая складаецца са стварэння вобразаў на аснове раней сфарміраваных прадстаўленняў.

## Ф

ФІЗІЯГНОМІКА - вучэнне аб адназначнай сувязі паміж знешнім выглядам чалавека і яго прыналежнасцю да вызначаемага тыпу асобы, дзякуючы чаму могуць быць устаноўлены псіхалагічныя характарыстыкі гэтага тыпа.

ФРУСТРАЦЫЯ - псіхічнае становішча чалавека, якое выклікаецца аб'ектыўна неадольнымі / або суб'ектыўна так успрымаемымі/ цяжкасцямі, якія ўзнікаюць на шляху да дасягнення мэты або вырашэння задачы; перажыванне няўдачы.

ФРЭНАЛОГІЯ - вучэнне аб сувязі псіхічных асаблівасцей чалавека або жывёлы з вонкавай формай чэрапа.

## Х

ХАРАКТАР - сукупнасць індывідуальна-своеасаблівых псіхічных уласцівасцей, якія праяўляюцца ў тыповых для дадзенай асобы спосабах дзейнасці, выяўляюцца ў тыповых абставінах і вызначаюцца адносінамі асобы да гэтых абставін.



## Ч

ЧАЛАВЕК - істота, якая ўвасабляе вышэйшую ступень развіцця жыцця, суб'ект грамадска-гістарычнай дзейнасці.

## Э

ЭМОЦЫІ - асаблівая форма псіхічнага адлюстравання рэчаіснасці ў чалавека і жывёл, якая праяўляецца як у суб'ектыўных перажываннях, так і фізіялагічных рэакцыях; яна ёсць адлюстраванне аб'ектыўных адносін да патрэб арганізма.

ЭКСТРАВЕРСІЯ І ІНТРАВЕРСІЯ - якасць асобы, характарыстыка індывідуальна-своеасаблівых адрозненняў чалавека. Крайнія палюсы Э. і І. адпавядаюць накіраванасці асобы або на свет знешніх аб'ектаў. або на з'явы яго асабістага суб'ектыўнага свету. Гэтыя паняцці былі ўведзены К.Юнгам.

ЭМПАТЫЯ - працэс суперажывання, уключэнне ў эмацыянальны стан іншага чалавека, здольнасць разумець перажыванне іншага.

"ЭФЕКТ АРЭОЛУ" - распаўсюджанне ва ўмовах дэфіцыту інфармацыі аб чалавеку агульнага ацэначнага ўражання аб ім, на ўспрыманне яго ўчынкаў і асабістых якасцей.

## Я

ЯКАСЦЬ - кожны від адчуванняў мае свае спецыфічныя асаблівасці, якія адрозніваюць яго ад іншых відаў. Гэтыя асаблівасці з'яўляюцца Я.

ББК 88.8

КАРОТКІ СЛОЎНІК ПСІХАЛАГІЧНЫХ ПАНЯЦЦЯЎ

ВУЧЭБНАЕ ВЫДАННЕ

Складальнікі: Бернацкая Н.П., Данілаў В.В., Іванова Л.М., Качубей Е.М., Старыкава Л.Л., Шумскі П.П.
Пад агульнай рэдакцыяй Шумскага П.П.

Адказны за выпуск Качубей Е.М.

Падпісана ў друк 26.10.93 Фармат 60 х 90 1/16. Папера тып.№1. Афсетны друк. Ум.друк. арк. 1,45. Іл.-выд. арк. 1,3. Наклад 200 паасобнікаў. Заказ 161.

247760, г.Мазыр,вул.Студэнцкая,28. Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут.
Надрукавана на ратапрынце Інстытута.